# Зь Беларускага Жыцьця

## Вялікая Ўрачыстасьць у Мітэнвальдзе

27 лістапада ў ДП лягеры Міттэнвальд-Люттэнзэ пры вельмі спрыяльнай пагодзе й у сьвяточным настроі адбылася ўрачыстасць пасьвячэньня памятніка героям Слуцкага паўстаньня. Гэтага дня па паўдні пачаўся паход зь лягеру да месца адкрыцьця памятніка: на перадзе скаўты із сьцягам, за імі прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў і народная школа зь вянкамі, а далей беларускія жыхары лягеру. Памятнік быў завешаны нацыянальным бел-чырвона-белым сьцягам і перавязаны чорнай крэпай, тут-жа ганаровая варта скаўтаў.

Урачыстасць адчыніў старшыня Камітэту пабудовы памятніка сп. В. Стома. Ён у кароткай прамове расказаў, у якіх абставінах адбывалася праца пры будаваньні памятніка, адзначыўшы, што жыхары лягеру аднагалосна пастанавілі ўшанаваць памяць Слуцкіх герояў ставячы гэты памятнік да дня гадавіны паўстаньня. Пры гэтым сп. Стома злажыў падзяку ўсім тым жыхаром, якія прычыніліся да пабудовы, а на канцы папрасіў прысутнага тут-жа старшыню Беларускага Нацыянальнага Камітэту на Амэрыканскую зону адкрыць памятнік.

Пасьля адсланеньня памятніка й злажэньня вянкоў, старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту сказаў кароткую прамову, у якой падчыркнуў значэньне для нас Слуцкага паўстаньня, схарактарызаваў вялікае й ахвярнае змаганьне нашага народу за сваю дзяржаўную незалежнасьць супраць бальшавіцкага паняволеньня. Пасьля прамовы старшыні мясцовым сьвятаром была адслужаная жалобная паніхіда па палеглых слуцкіх паўстанцах. Пасьля паніхіды ўрачыстасць закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гымну.

Вечарам гэтага-ж дня ў тэатральнай залі лягеру адбылася жалобная акадэмія, на якую злажыліся рэфэрат аб Слуцкім паўстаньні і мастацкая частка, падрыхтаваная й праведзеная мясцовым кіраўніком і вучнямі беларускае народнае школы. Былі выкананыя патрыятычныя песьні й вершы, адпаведна падабраныя да гэтага дня.

Факт пабудовы памятніка невялічкай беларускай групай лягеру Лютэнзэ ў Міттэнвальдзе паказвае сьведамасьць і глыбокую ідэйнасьць нашага народу, ягонае імкненьне да волі й дзяржаўнае незалежнасьці ды даводзіць, што пачатае Случчакамі змаганьне нашага народу супраць бальшавізму вялося ўвесь час, вядзецца яно й сяньня як на Бацькаўшчыне, так і на эміграцыі. Ужо ў той час наш беларускі народ добра зразумеў, што прыносіць з сабой бальшавізм і ягоная таталітарная сыстэма, хоць, на вялікі жаль, змаганьне нашага народу не знайшло тады падтрыманьня з боку мацнейшых дзяржаваў. Таму пад вялікай перавагай бальшавізму закончылася тады яно поўнай акупацыяй нашага краю. Але беларускі народ верыць, што нашая вялікая нацыянальная ідэя ў будучыні пераможа й дружнымі й ахвярнымі высілкамі ўсяго народу будзе ізноў адбудаваная Вольная й Незалежная Беларусь.

**Госьць.**

## З нашага жыцьця у Остэргофэне

Ёсьць у Ніжняй Баварыі мясьціны роўныя, мясцамі балоцістыя, дзе-ня-дзе лясістыя й вельмі падобныя да беларускіх краявідаў. У такіх мясьцінах сярод палёў, лугоў, і ўзгоркаў, парослых хвайняком у перамешку зь бярэзьнікам,параскіданыя вёскі й малыя гарадкі, колькасьцю свайго насельніцтва й ягонай прафэсіяй напамінаючыя беларускія вёскі й мястэчкі. Остэргофэн — адзін з такіх гарадкоў — будзе калісьці гісторыкамі беларускага руху ня раз успамінаецца. Сюды якраз злая доля закінула групу беларусаў з усіх куткоў нашае Бацькаўшчыны.

Тут ня раз зьбіраліся й мо яшчэ будуць зьбірацца беларускія патрыёты з усяе Нямеччыны, каб супольна радзіць над нашымі нацыянальнымі справамі й як супольна дапамагчы свайму гору. Гэтыя нарады і гарачыя на іх спрэчкі й гутаркі часта цягнуліся па некалькі дзён, у выніку чаго дэлегаты разьяжджаліся з адсьвежанаю энэргіяю, поўныя надзеі на лепшую долю беларускага народу й Бацькаўшчыны. Остэргофэн — гэта месца выдаваньня друкам першае пасьля вайны ў Нямеччыне беларускае газэты «Бацькаўшчыны» й журналу «Сакавік». Тут месьцяцца некаторыя нашыя цэнтральныя й зонныя арганізацыі й установы. Аднак, ня гледзячы на ўсё, адчуваецца, што акружэньне тут чужое й няпрыхільнае. Здаецца ёсьць так, што ня толькі кажны баварац, але навет кажны баварскі конь і вол косяцца варожымі вачыма на беларусаў і чакаюць нагоды, каб нас здушыць і выкінуць, як нейкую здань, непакоячую многіх ды прыпамінаючую іхныя нялюдзкія праступныя дзеяньні над душамі й целам нашага народу там, на Бацькаўшчыне і тут калісьці, як остарбайтараў

Нічога тады дзіўнага, калі многія беларусы хватаюцца за ўсякую нагоду, каб скарэй выехаць зь Нямеччыны. Бываюць аднак мамэнты, калі забываешся аб варожасьці баварцаў і іхных канёх і валох, а робіцца на сэрцы радасна й міла. Але такія хвіліны бываюць рэдка й трываюць коратка, бо толькі падчас імпрэзаў, ладжаных Остэргофэнскім Беларускім Жаноцкім Згуртаваньнем. Такую прыемную хвіліну перажывалі нашыя беларусы 27 лістапада, калі ігралася на сцэне камэдыя М. Чарота «Мікітаў лапаць», асабліва калі выступалі на сцэне суседкі сп. Вольга К. і Аўгеня К. Ні аднэй і не аднаму й сьлязінка выступіла, калі на яву бачылі абраз зь вёскі свае ці роднага мястэчка ды прыпаміналіся ня раз бачаныя сцэны на Бацькаўшчыне, чуліся гутаркі даволі сварлівых, часамі, нашых гаспадыняк-суседак, але скорых да згоды й прабачэньня, а так-жа паважных гаспадароў і талковых сялянак, гэтак адменных ад баварцаў Назіраючы гледачоў, адчувалася, што многія забыліся аб сваім шэрым манатонным жыцьці й клопатах, а думкамі блудзілі ў вакружэньні суседзяў, па родных кутох, дварох і вуліцах родных вёсак. Прыходзіцца дзівіцца тым нямногім, якія, маючы магчымасьць, ня былі прысутнымі на прадстаўленьні. Няўжо ржаўчына й плесьнь так пакрыла іхныя пачуцьці ў душы, што не адчуваюць яны ўжо патрэбы, каб хоць позіркам насаладзіцца роднымі зьявамі.

Усе аматары йгралі даволі добра, аднак было-б яшчэ лепш, калі-б грыміроўка дакладней паказвала рысы нашых сялян і адчувалася, што словы аўтара камэдыі не ўсімі артыстамі былі асвоены. Трэба аднак надзеіцца, што Жаноцкае Згуртаваньне, як адна з найжывейшых і найбольш дзейных арганізацыяў у Остэргофэне, на гэтым не затрымаецца й далей будзе ладзіць прадстаўленьні, пашыраючы беларускую культуру й адначасна зьбіраючы матарыяльныя сродкі на помач патрабуючым.

Апрача імпрэзаў Жаноцкага Згураваньня, скаўты ў Остэргофэне з нагоды трэйцяе гадавіны заснаваньня Беларускага Скаўтынгу ў Нямеччыне ладзілі 21 лістапада скаўцкае вогнішча, дзе паміж іншым на асаблівую ўвагу заслугоўвала пяяньне пралесак і ваўчкоў, а таксама дэклямацыі пралескі Ларыскі й ваўчка Юркі. Пралескі, абсеўшы навакол спадарыні Аўгені К, із сваімі валасатымі рухлівымі галоўкамі ўтажсамлівалі птушанятак у гнязьдзе каля свае маткі. Удалы й на часе быў таксама скэч скаўтак.

Дзень 26 лістапада прысьвечаны быў памяці Слуцкага паўстаньня й гераічных паўстанцаў. Днём была адслужана жалобная паніхіда з адпаведнаю пропаведзьдзю айца Ж., а вечарам адбылася ўрачыстая акадэмія з дакладам дра Г. Сярод дэкляматараў на акадэміі, як блізу заўсёды, зьвяртала на сябе ўвагу дэклямацыя Ванды М-ла, якую заўсёды з прыемнасьцю слухаецца, бо дэкляматарка дэклямуе з глыбокім пачуцьцём і перажываньнем зьместу верша.

**Я Ч.**

## КРЫШКУ ДА БЕЛАРУСКІХ ЭТНАГРАФІЧНЫХ ГРАНІЦАЎ

Сп. Ю. Кашэльняк у вартыкуле «Іспыт зрілости російських солідаристів», надрукаваным ў ўкраінскай газэце «Час» з 24.10.48 кажа: «Вось гэтая тэрыторыя нацыянальна-расейскага масыву — ад Архангельску да Сталінграду і ад Смаленску да Сьвярдлоўску — тварыла-б не імпэрыялістычнае, але запраўды нацыянальна-расейскае гаспадарства». А запраўды заходняя граніца этнаграфічная расейскга народу праходзе не на Смаленск, а надта далёка на ўсходзе ад яго. Каб гэта паказаць, прывяду сьветчаньні найаўтарытэтнейшай расейскай установы, наймя Маскоўскай Дыялекталёгічнай Камісіі. Менаваная расейская ўстанова гэтак праводзе граніцу **чыстае** мовы беларускае на ўсходзе зь **беларускаю-ж** моваю, запсаванаю расейскімі ўплывамі. Пачынаючыся ў Цьвершчыне, гэтыя граніца йдзе на паўдня ўздоўж ракі Вазузы, дзелячы былы павет Сычаўскі папалам, а далей пераразае б. пав. Вяземскі бліжэй да яго заходняй граніцы, ідзе ўздоўж граніцы б. пав. Дарагабускага з б. пав. Юхнаўскім, перараза паўночна-усходнюю часьць б. пав. Ельнінскага і ўходзе ў б. губэрню Калускую, тут граніца цягнецца ўздоўж р. Болвы ў б. пав. Масальскім і Жыздрыскім, а далей уходзе ў б. губ. Арлоўскую, перараза б. пав. Бранскі ў кірунку паўдзённа-заходнім, уходзе ў б. пав. Трубчэўскі, цягнецца ўздоўж яго граніцы з пав. Мглінскім і Старадубскім у б. губ. Чарнігаўскай у воддалі каля 10 км. ад іх ды ўздоўж р. Дзясны набліжаецца да граніцы пав. Ноўгарад-Северскага.*).

Москва 1915, бач. 56 — 57.

Гэта — падчыркую — граніца **чыстае** беларускае мовы з моваю **таксама беларускаю,** але запсаванаю расейскімі ўплывамі. А граніцу мовы расейскай із моваю беларускай наагул (значыцца, і запсаванай) тая-ж Камісія на сваёй карце і ў начырку да карты праводзе так, што да этнаграфічнай прасторы беларускай уходзе блізу ўся Смаленшчына (з выняткам пав. Гжацкага і невялічкай часьці пав. Сычаўскага), заходняя большая часьць б. губ. Калускай ды часьць б. губ. Арлоўскай (часьць пав. Бранскага й Трубчэўскага.

Пасьлей, у 1928 г. сябра гэтае Камісіі, І. Голанов, зрабіў папраўкі да менаваных граніцаў, праведзеных М. Дыял. Кам. Подле гэных паправаак уся Смаленшчына аж да м. Гжацка і крыху на ўсход ад яго (да сяла Матаева) належыць да беларускай тэрыторыі. Подле тых-жа паправаак, расейска-беларуская граніца праходзе ў Арлоўшчыне на ўсход ад м. Карачэва і каля м. Дзьмітроўска ды ў губ. Курскай гэтая граніца праходзе крыху на ўсход ад м. Сеўска і 25 км на ўсход ад м. Дзьмітроўска.*).

Да сказанага можна яшчэ толькі дадаць, што само беларускае насельніцтва менаваных прастораў адрозьнюе сябе ад расейцаў, а гэтыя таксама не прызнаюць яго сваім, а завуць ліцьвінамі.**).

*) Труды Московской Діалектологической Комиссии. Опыт диалектологической карты русского языка в Европе с приложением очерка русской диалектологии. Составили члены Комиссии Н. Дурново, Н. Соколов и Д. Ушаков.

*) І. Голанов: Несколько новых даных к вопросу о географическом распространении диссимилятивного акания («Сборник статей в честь акад. А. І. Соболевского. АНС, Ленінград 1928, б. 479 — 83).

**) Выказаньні — «Литвин нацокает, что и не разберешь его» (Беларусы Смаленшчыны заміж **ч** вымаўляюць **ц**). «Как ни закаивайся литвин, а дзекнет. Только мертвый литвин не дзекнет» — звычайныя на пагранічча беларуска-расейскім з боку расейскіх сялян і мяшчан. Гэтае званьне беларусаў ліцьвінамі, значыцца другім побач «Крывічы» гістарычным і праўдзівым назовам гэтага народу, прывяло ў вабмылку аднаго летувіскага дыплёмата. Едучы перад гэтай вайною ў Маскву, ён падарозе спыніўся і пачаў шукаць «ліцьвіноў», разумеючы пад імі сваіх родзічаў. І запраўды знайшоў «ліцвіноў» і «літоўскую» мову, але за сваіх іх ня прызнаў.

### ГАДАВІНА СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ Ў ШЛЯЙСГАЙМЕ

27 лістапада зь ініцыятывы кіраўніцтва Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў беларуская група лягеру Шляйсгайм урачыста адсвяткавала 28-ю гадавіну Слуцкага Паўстаньня.

А гадзіне пятай вечарам была адслужаная жалобная паніхіда за тых, хто злажыў сваё жыцьцё на аўтар змаганьня за волю беларускага народу, за незалежнасьць яго Бацькаўшчыны Беларусі. Пасьля Божае службы ў памяшчэньні беларускае пачатковае школы адбылася ўрачыстая акадэмія, якую адчыніў старшыня ЗБВ сп. капітан К. Вадэйка. Усе прысутныя на просьбу сп. старшыні ўшанавалі памяць палёгшых уставаньнем і хвілінаю цішыні. Далей сп. кап. Вадэйка прачытаў глыбака патрыятычнага зьместу рэфэрат, пад уражаньнем якога не адно запраўды беларускае сэрца застукала ў грудзях мацней і часьцей і не адзін з прысутных у гэны мамэнт перанёсься сваімі думкамі на прасторы нашае дарагое Бацькаўшчыны Беларусі.

**Ул. Б.**

### І Ў ВАКРУЗЕ ЁРКС БЕЛАРУСЫ КУПІЛІ ДОМ

У горадзе Брадфорд у Ангельшчыне група беларусаў на чале з Марозам — старшынёю акруговага аддзелу Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі злажылася й на гэтыя сродкі купіла собскі дом. Гэтая прыватная ініцыятыва мае й грамадзкае значэньне, бо ў гэтым доме месьціцца канцылярыя акруговага аддзелу ЗБВБ акругі Ёркс, там-жа адбываюцца ўсе сходы аддзелу й жыве частка ягоных сяброў.

### КОСТА-РЫКА ЛІКВІДУЕ СВАЮ АРМІЮ

Паўдзённаамэрыканская рэспубліка Коста-Рыка з днём 1-га сьнежаня поўнасьцю разьвязала сваю армію, уважаючы яе за непатрэбную, бо гэтая краіна хоча жыць у згодзе із сваімі суседзямі. Таму ўсе абаронныя ўладжаньні й казармы будуць зьнішчаны, а галоўная гаспода арміі будзе перамененая ў музэй. У цэлай краіне будзе для ўтрымліваньня парадку служыць 242 паліцыянтаў, зь іх 82 афіцэраў, а таксама 220 музыкантаў, якія будуць іграць на сьвяточных канцэртах на пляцах гарадоў.

Калі цяпер у Парыжы ламалі дыпляматы галовы, якім спосабам правесьці раззбраеньне, і ні да чога не дайшлі, то Коста-Рыка зрабіла гэта ў сябе вельмі проста. Ды калі-б гэтак увесь сьвет, як Коста-Рыка, поўнасьцю раззброіўся, то напэўна адпалі-б усякія загрозы войнаў.

### КАРОТКІЯ ВЕСТКІ

— Савецкая камендантура ў усходнім сэктары Вэрліна ня будзе даваць дазволу на ладжаньне калядных сьвятаў, калі на іх будуць пяяцца рэлігійныя калядныя песьні.

— Грэцкія паўстанцы знаходзяцца толькі ў 12 кілёмэтрах ад Салёнікаў. Агульная сіла грэцкіх паўстанцаў аблічаецца — згодна заявы грэцкага генэральнага штабу — на 70.000 чалавек.

— Камандаваньне амэрыканскага лётніцтва падало да ведама, што ў недалёкай будучыні ЗША пачнуць будаўніцтва спэцыяльнага тыпу самалётаў-цыстэрнаў, якія будуць давозіць у паветры бэнзіну баёвым самалётам і такім спосабам павялічаць радыюс іхнага дзеяньня.

— З савецкага канцлягеру ў Захсэнгаўзэн пры помачы падкопу ўцякло пяць вязьняў. За іх славамі, бальшыня вязьняў ня здольная да такога чыну дзякуючы свайму аблсьсіленьню.

Адраджэнскі беларускі рух праточуецца таксама ў гэтыя прасторы. Із самога Гжацка былі ведамыя сьвядомыя студэнты беларусы. Ад 1933 г. інтэлігентаў зь менаваных прастораў за прызнаньне да беларускае нацыянальнасьці расейцы вінавацяць у нацыяналізьме й высылаюць на поўнач Расеі або ў канцэнтрацыйныя табары.

**Я. Ст.**

### ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

Беларуская Бібліяграфічная Служба паведамляе, што падрыхтаваная да выданьня неабходная кажнаму культурнаму і грамадзкаму дзеячу кніжка — даведнік «Паказчык Беларускіх Выгнанскіх Друкаў» ад травеня 1945 г. да 1 лістапада 1948 г.». Ахапляе ён сабою пэрыядычныя выданьні, кнігі і г. д. з рознымі неабходнымі дадаткамі. Кніга будзе памножана толькі ў азначанай колькасьці, згодна з наперад замоўленым лікам паасобнікаў.

Замаўляць па адрасу ББС на адрас часовага кіраўніка:

**(23) Oldenburg in Oldenburg.**
**Ohmstede-Rennplatz, DP.-Lager 224-F.**

## ШУКАЮЦЬ

Цана абвесткі — 10 фэнігаў за кажнае слова. Аплата наперад.

Братоў **Захарку й Андрэя,** сёстраў **Ніну** й **Анісю Усовічаў,** з хутара Горкі, пав. Дзісна, якія да канца вайны прабывалі ў Нямеччыне — Усовіч Міхал.

**Сваякоў** і **знаёмых** — Круновіч Аляксандр з Лунінецкага пав.

Бацьку **Лявона,** матку **Тадору,** сёстраў **Надзю, Ганну й Кацярыну Лабэцкіх,** якія ў 1944 г. прабывалі ў Вогляў каля Брэсляў у Нямеччыне — Лабэцкі Андрэй.

**Цімаха Ламаку** й **Мікалая Швачку** — Ганна Ламака.

**Аляксандру Валынец і Федзю (Жамойцін)** — Ш. С.

Хто паходзіць зь вёскі Красноўцы, воласьць Ваверкі, прашу адгукнуцца на адрас «Бацькаўшчыны» пад Ш. С.

Хто ведаэ адрас сп. **Татура Альбэрта** — просьба падаць Адміністрацыі «Бацькаўшчыны».

Усе весткі просім прысылаць на Адміністрацыю

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць выражаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Whiteruthenian Weekly „The Fatherland“
Authorized by EUCOM Hq. Civil Affairs Division 20 July 48, Nr. UNDP 225. Circulation 3500 copies.
Administration: (13b) Osterhofen, Ndby., Whiteruthenian, D.P.Camp.
Licensee: Wladimir Borthik.
Edited by: Whiteruthenian National Commitee.
Printed by: Georg Jakob, München 8, Pütrichstraße 3a.